Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 11 Вільня, Чацьвер, 27-га траўня 1926 г. Год І.

## Напярэдадні разьвязкі.

У панядзелак, 31 мая, у Варшаве мае адбыцца Нацыянальны Збор (супольнае паседжаньне сяброў Сойму і Сэнату)—дзеля выбару прэзыдэнта Польскае Рэспублікі.

Навакол гэтага важнага палітычнага акту зьбіраюцца над Польшчай чорныя хмары. Пазнанскія „канфэдэраты“—пад павадырствам самага яркага прадстаўніка польскага фашызму Рамана Дмовскага — заяўляюць, што яны не паедуць на выбары ў Варшаву, дзе істнуе—на іх пагляд—„нелегальная“ ўлада, — бо пад націскам яе яны ня хочуць рабіць выбараў. Адначасна там-жа, у Пазнані, творыцца „Арганізацыя Абароны Дзяржавы“ („Organizacja Obrony Państwa“), якая мае на мэце „вызваліць Польшчу ад элемэнту бунту і сацыяльнае рэвалюцыі“, арганізуючы дзеля гэтага ўсіх, „каму дарогі інтарэсы *рэлігіі, права, уласнасьці* і правапарадку“, (гл. „Gaz. Warsz. Poran.“ з 21 мая). А „Robotnik“ падае рэзалюцыю афіцэраў запасу ў Пазнані, у якой тыя клічуць „даць адпор гвалту сілай, здушыць бунт, вярнуць правільны стан у дзяржаве, згодны з канстытуцыяй“, а ўрэшце—„каб паслы і сэнатары, якія знаходзяцца ў Пазнані, разам з прадстаўнікамі грамадзянства, назначылі *галоўнакамандуючага аружнымі сіламі Рэспублікі*“, у руках ягога павінна знаходзіцца ўся „акцыя арганізаваньня сілы, якая мела-бы на мэце *здушэньне бунту і ўзнаўленьне ладу* і парадку ў дзяржаве“.....

Ясна, проці каго і чаго кіруюцца пазнанскія фашысты, якія ад слоў ужо пераходзяць да дзела. Ясна, што ў першы чарод яны хочуць зрабіць удар марш. Пілсудскаму, якога ў сваім выбражэньні ўжо „судзяць“, як „бунтаўшчыка“, апіраючыся на дэкрэтах самога-ж Пілсудскага з часу займаньня ім становішча начальніка дзяржавы......

А што-ж робіць п. Пілсудскі, што робяць тыя партыі, якія прапануюць выбіраць яго за прэзыдэнта і заяўляюць, што „*Пілсудскі — гэта ўжо ёсьць палітычная праграма*“? Чым яны забясьпечыліся, каб на Нацыянальным Зборы не перамагла правіца і ня выбрала-бы—замест Пілсудскага—скінутага апошнім з прэзыдэнцтва Войцеховскага, — каб не вярнулася назад палажэньне, істнаваўшае да перавароту 12 мая?

На ўсе гэтыя пытаньні ані Пілсудскі, ані тыя, што асобу яго абвясьцілі сваім палітычным штандарам, адказу не даюць..... І дарма чакаем мы на апублікаваньне праграмы п. Пілсудскага: з кожным днём робіцца ўсё больш і больш ясна, што *ніякае праграмы павадыр процiфашыстаўскага выступленьня ня мае*!

Чым забясьпечыцца ад фашызму надалей? Наполеон некалі сказаў, што штыхамі ўладу можна здабыць, але сядзець на штыхох—немагчыма. І зусім зразумелая рэч, што край ня можа быць усьцяж на ваенным палажэньні, што мусіць быць заведзены такі *нармальны лад*, пры якім істнуючыя цывільныя, дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы забясьпечывалі-бы ад новага аружнага замаху на ўладу—гэтым разам толькі ўжо з боку фашыстаў.

Пан Пілсудскі, такой праграмы ня мае, што сьвярдзіў сваім *уваходам у склад ураду*, які назначаны „пястоўцам“ Ратаем. Гэны-ж урад можа быць у вадзін дзень зменены моʻ ўрадам таго-ж самага Вітаса, калі на Нацыянальным Зборы ў найбліжэйшы панядзелак перамога акажацца на старане правіцы, калі там выбяра на становішча прэзыдэнта „свайго“ чалавека—хоць-бы таго-ж п. Войцеховскага..... І гэты крок п. Пілсудскага найлепш раскрыў яго беспраграмнасьць, бо-ж нельга лічыць палітычнай праграмай абяцанку змагацца з зладзеямі і дэмаралізацыяй: такія грахі водзяцца не за аднымі фашыстамі... Калі-ж за праграму п. Пілсудскага лічыць усю ягоную дзеяльнасьць у часе яго ваеннае дыктатуры на Усходніх Землях, калі прыпомніць, што зроблена ім у нас і для нас,—дык прыдзецца сказаць, што такая „праграма“ нам абсалютна нічога новага ані лепшага ня суліць, раўнуючы з тым, чым „абдорывалі“ нас урады братоў Грабскіх, Вітаса і інш. У сваей *сацыяльнай* праграме п. Пілсудскі стаяў на грунцье захаваньня „сьвятога“ права прыватнае ўласнасьці абшарнікаў на зямлю, нарушаючы гэтае права выключна ў тых выпадках, калі трэба было зямлі *для вайсковых асаднікаў*. Нашаму-ж сялянству п. Пілсудскі зямлі ня даў: наадварот, ён забараніў сялянам выкупляць зямлю ў паноў у той час, калі тыя, спалохаўшыся магчымасьці ў нас сацыяльнае рэвалюцыі, гатовы былі на вельмі лёгіх варунках пазбыцца зямлі самахоць, каб яе не адабралі дарма.... А і *палітычную* ўладу ў нас п. Пілсудскі аддаў цалком у рукі тых-жа абшарнікаў, назначаючы іх на становішчы ваяводаў, старостаў і т. п. У *нацыянальным* нашым жыцьці на час ваеннае дыктатуры п. Пілсудскага прыпадае акурат пачатак ліквідацыі беларускага школьніцтва. Урэшце, і тая ідэя *фэдэрацыі* Польшчы з Беларусяй і Украінай, як роўных з роўнымі, аказалася пустым гукам, і сам-жа пан Пілсудскі ў Вільні пасьля публічна заяўляў, што гэтае справы ён „ніколі паважна не трактаваў“...

Пілсудскі *цяпер не сказаў* нічога новага проці таго, што *некалі рабіў*. І ўсе спадзяваньні як польскіх працоўных масаў, так і беларускіх, што быццам *цяпер* п. Пілсудскі нешта мае зрабіць „нязвычайнага“,—не апраўдаліся: увайшоўшы ў склад ураду, залежнага ад пануючае ў Сойме буржуазіі, Пілсудскі йдзе шляхам, які *ня зыходзіцца з шляхам працоўных сялянства і работнікаў*. *Пілсудскі ня хоча тварыць улады, абапертай на сялянах і работніках.* — А без такое ўлады польскі фашызм не сягоньня, дык заўтра падыме сваю галаву вышэй, чым дагэтуль, жорстка распраўляючыся з усімі, што пад павадырствам п. Пілсудскага пасьмелі так рашуча выступіць проці панаваньня фашыстаўскае ўлады....

Які-ж з гэтага вывад?

Вывад той, што ў гэты мамэнт больш, чым калі, працоўныя вёсак і мест мусяць *арганізоўваць свае сілы* дзеля адпору ўсялякім спробам фашызму ўзяць у свае рукі ўладу, якой п. Пілсудскі сваім аружным выступленьнем ад такое магчымасьці *не забясьпечыў*. Працоўныя маюць сваю праграму, ведаюць, чаго ім трэба, і ясна бачуць шлях да сваей мэты. І яны пойдуць гэтым шляхам далей—міма п. Пілсудскага, які *ня здолеў* у рашучы мамэнт *сацыяльна самавызначыцца, не адважыўся паверыць у творчыя сілы працоўных, не пасьмеў пайсьці разам з імі і іх шляхам—да сьветлае будучыны.*

## Справа палітычных вязьняў.

У турмах Польскай Рэспублікі знаходзіцца каля 6 тысяч палітычных вязьняў. 99 проц. іх—гэта работнікі, сяляне, прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў. Гэта — барцы за справу працуючых мас, якія ў штодзенным будным жыцьці змагаліся за тое-ж, за што пралілася кроў і на вуліцах Варшавы. Сягодня, хаця фашыстычны ўрад Вітаса скінены, — палажэньне палітычных вязьняў саўсім не зьмянілася.

У Вільні адбылася нядаўна галадоўка палітычных вязьняў. Ужо пасьля перавароту Пілсудскага змушаны яны былі ўжыць гэтага адзінага свайго аружжа і то ў абароне часьцейшай зьмены бялізны, даўжэйшага спацэру, датрыманьня абяцанак, адваяваных папярэдняй галадоўкай.

Зараз жа за ёй маем новую ў Наваградзкай турме. Ізноў 80 палітычных вязьняў не прынімае ніякага харчу, дамагаючыся датрыманьня старога, выданага яшчэ перад пераваротам распараджэньня адносна палітычных вязьняў. Адміністрацыя турмы замест задаволіць іх—пачала жорстка распраўляцца з правадырамі.

Улада, пакуль-жто, фактычна знаходзіцца ў руках Пілсудскага. Пан Пілсудскі запэўняў, што кроў салдатаў праліта ім не дарма.

І што-ж мы бачым? Новы ўрад звольніў амаль усіх староньнікаў старога парадку, яшчэ нядаўна ў поўным азбраеньні, знаходзіўшыхся на другім баку варшаўскіх барыкад, але ня выпусьціў з турмы правадыроў работнікаў і сялян, барацьбітаў проці таго-ж фашыстычнага фронту.

Амністыя дана, але.... чорнай сотні! Гэта—іронія. Дык усе спрыяючыя інтарэсам працуючых мас, усе прэтэндуючыя на імя сацыялістаў, усе, хто запраўды хоча справядлівасьці, павінны дамагацца амністыі і для палітычных вязьняў. **Ш.**

## „Маральная рэвалюцыя“ у Польшчы і — пэпэсы.

„Гэта была маланка“,—коратка заявіў амэрыканскаму карэспандэнту аб пераваропе сам Машалак Пілсудскі, які першы і сцьвярдзіў—**„маральны“** зьмест „Вялікай Польскай Рэвалюцыі“.

Пасьля Марш. Пілсудскага гэта сцьвярдзіла і ўся абʻядналая каля ППС польская лявіца.

Можа найляпей аб гэтым заявіла адна з найбольш уплывовых у Польшчы „маральных“ экспазытураў польскай лявіцы—знамянітая „ПОВ“ — „Польская Арганізацыя Вольнасьці“. Вось як гучна піша „ПОВ“ аб новым „цудзе над Віслай“ 12—15 траўня:

„Камандант Язэп Пілсудскі на чале войска зрабіў **маральную рэвалюцыю**: скінуў далоў панаваньне прадажнасьці ў Польшчы, разагнаў ды пусьціў па ветру, як пыл, увесь абоз лайдацтва, — трымаючы ў панічным страху ды жаху тых з яго, хто яшчэ нейкім цудам ацалеў“.

Вось як пекна,—як маланкава-пекна!—кажуць аб зробленай у Польшчы маральнай рэвалюцыі галоўныя аратары „ПОВ“—пэпэсы ды вызваленцы, — паны Голувкі, Анушы і Медзіньскія.

Няменш гучна славасловяць „маральную рэвалюцыю“ паны пэпэсы і ў сваім партыйным Маніфэсьце сцьвярджаючы, што „плюгавая суполка рэакцыі **разьбіта ў Польшчы на галаву**.

Але-ж той-жа маніфэст тут-жа неяк сцьвярджае, што гэтая „разьбітая на галаву рэакцыя“ — **ня толькі жыве**, што ня толькі на мейсца разьбітай галавы ў яе вырасла новая, але—што „гэтая рэакцыя — **„пагражае помстай“**. Быццам пабітая на сьмерць „Маральнай Рэвалюцыяй“ рэакцыя **рыхтуе новыя сілы**—для новых „парахункаў“. Дык навет пасьля гэтай „маральнай рэвалюцыі аказываецца, як сцьвярджае пэпэсаўскі Маніфэст, патрэбны неяк яшчэ і—„фізычныя сілы — дзеля абароны Польшчы ад ворагаў народу, — дзеля супакаеньня шаленстваў рэакцыі“.

Дык цяпер ужо зусім ня можна зразумець: што-ж зрабіла ў Польшчы „маланкавая маральная рэвалюцыя“, калі ўсе „ворагі народу“ ня толькі ацалелі, але яшчэ і — „лятуцяць аб крывавай помсьце польскім працоўным?!“.

„Маральная рэвалюцыя“ ў Польшчы зрабіла, што ўжо зусім бясспрэчна,—**цуд маральнага перараджэньня польскіх „сацыялістаў“**: польскія сацыялісты перасталі быць сацыялістамі,—навет тымі „эвалюцыйнымі“, якімі былі дагэтуль, а сталіся — шчырымі і маральнымі **дэмакратамі**. Вось такімі-ж, як былі калісьці добрай памяці расейскія кадэты!.. „Хай жыве перамога дэмакратыі!“, крычаць пэпэсы ў сваім маніфэсьце. А вось паслухайце, як яны рэклямуюць марш. Пілсудскага ў тым-жа маніфэсьце:

„Маршалак Пілсудскі ня імкнецца да дыктатуры, бо хоча—**спакойнага разьвіцьця краю — на падставе публічнай маральнасьці**“. „Маршалак Пілсудскі ёсьць дэмакрат“. Маршалак Пілсудскі, дадамо, можа — яшчэ й больш шчыры дэмакрат, як паны пэпэсы, бо толькі-што—перад самым „пераваротам“—забойча зьдзекаваўся над тымі-ж пэпэсамі — за тое, што яны „цалаваліся па кутох за буфэтнымі чаркамі ў Сойме з эндэкамі ды вітасамі“.

Але можа якраз гэтая паўгадавая коаліцыя (супрацоўніцтва) з эндэкамі, хадэкамі ды вітасамі — найбольш дапамагала цяперашняму „маральнаму адраджэньню“ пэпэзсаў, ня гледзячы на тое, што яны так лаюць сваіх нядаўных таварышоў Зьдзеховскіх ды Вітасаў, з якімі толькі што стваралі „адзіны фронт польскай дэмакратыі“—проці сялянства, нацыянальных меншасьцяў і ненавістных камуністаў.

---

Цяпер паглядзім, якую **практычную праграму** высоўваюць пэпэзсы—у зьвязку з „маральнай рэвалюцыяй“ у Польшчы.

І тут, як бачым, „маральная рэвалюцыя“ зусім **„не зьмяніла натуры гэтых крывадушных круцялёўбаламутаў,** якія пішуць на сваім сьцягу розныя пекныя лёзунгі, а на дзеле робяць наадварот.

Сьпярша пэпэзсы трэбавалі **безадкладнага роспуску Сойму** ды перадачы ўсей улады ў рукі Пілсудскага. **Аб новых выбарах тады ня пісалася нічога!** Пасьля пэпэзсы, у згодзе з рэштай дэмакратыі, дадалі трэбаваньне—новых выбараў. „Стары Сойм памёр, пішуць яны цяпер у маніфэсьце, — **у немачы ды пагардзе: — польская рэакцыя яго забіла“.** Трэба зрабіць новы, лепш—работніцка сялянскі Сойм.

Слушна! Але-ж, як аказываецца, уся пельская дэмакратыя, якая хоча зрабіць Пілсудскага Прэзыдэнтам, ці — „легалізаваць яго фактычную дыктатуру“ Польшчы, **мае выкарыстаць для гэтай мэты ня новы Сойм—лепшы, ды работніцка-сялянскі, як нібы-то трэбуе ППС,—але—якраз гэты самы „стары рэакцыйны, памершы з немачы ды пагарды“!..**

Вось першы палітычны крок на шляху таго „маральнага адраджэньня“, якое зрабіла варшаўская „маланка“, — крок, які фактычнаму дыктатару Польшчы Пілсудскаму мае даць законную ды маральную сіпу — **„народам выбранага“ галавы дзяржавы!..**

Дый мала таго: тыя самыя пэпэзсы, якія найбольш пагарджаюць гэты „забіты рэакцыяй Сойм“, зьяўляюцца **найбольш гарачымі сватамі ды мішурысамі** ў ім, працуючымі над стварэньнем на Нацыянальным Зборы большасьці „дэмакратыі“, каб забясьпечыць высоўваную праз яе **кандыдатуру** марш. Пілсудскага.

Першы вывад, зусім няўхільны, які трэба зрабіць з усей гэтай тактыкі пэпэзсаў і яе „дэмакратычнага блёку“,—той, што якраз у гэтым „старым Сойме“ гэтую кандыдатуру лягчэй правясьці, як у новым — „работніцка-сялянскім„, якога слушна спадзяецца ППС на новых выбарах.

Аб гэтых клапотах свацьці пэпэзсіцы расказываюць у Сойме запраўды-ж дзіўныя рэчы. Усе гэтыя яе клапоты найляпей паказываюць, што якраз **гэты Сойм,** ня гледзячы на большасьць у ім „забойчай рэакцыі“, **лепш для „дэмакратычнага“ кампрамісу** (чытай: угоды з рэакцыяй!), як новы з—работніцка-сялянскай большасьцю.

Перадусім пані Пэпэзсіца шукае „паразуменьня“ **направа** ад сябе — сярод **„работнікаў нацыяналістаў“** ды — **пястоўцаў,** якія толькі-што разам уваходзілі да „ўраду Вітаса“. Шукае сярод іх галасоў для забясьпечаньня выбару марш. Пілсудскага. Маршалак-прэзыдэнт Ратай служыць дзеля гэтай мэты — найлепшым, запраўды-ж—**„залаты мастом“.** З свайго боку п. Ратай, які дагэтуль зусім не адрокся ад свайго партыйнага таварыша ды галавы Вітаса, служыць „залатым мастом“—і для далейшай коаліцыі—з эндэкамі і далей направа.

Адначасна пэпэзсіца рашуча, як пішуць газэты, адкідае ўсялякія „выбарныя паразуменьні“ — з „Незалежнымі Сялянамі“ п. Ваяводскага, ня кажучы ўжо аб камуністах. А гэта мо‘ найбольш ярка сьведчыць аб шчырасьці яе другога дамаганьня ў маніфэсьце — аб „устанаўленьні работніцка-сялянскага ўраду“.

У размовах з нацыянальнымі меншасьцямі свацьця-пэпэзсіца выявіла асаблівыя стараньні: бо-ж ведама, што бяз іх 91 голасу ня можа быць і мовы аб выбары Прэзыдэнта—проці галасоў правіцы.

Але, калі прадстаўнікі клюбаў меншасьцяў слушна патрэбавалі ад свацьці сьпярша — паказаць ім **на паперы палітычную праграму** таго жаніха, за якога так стараецца свацьця, дык пэпэзсіцца аж пляснула рукамі: на што-ж гэта, калі маральная асоба кандыдата сама гавора за сябе?!.

---

Практычныя рэзультаты „маральнай рэвалюцыі“ ў Польшчы цяпер ужо—ясны для кожнага сьведамага чалавека. Трохі настрашыўшы „маланкай“, забіўшай ці раніўшай каля 2.000 простых „сьмяротных“, але ацалеўшай усю несьмяротную **польскую рэакцыю,**—гэтая „рэвалюцыя“ **ўсё ў Польшчы пакінула на мейсцы. Ніякай праграмы палітычных, сацыяльных ці гаспадарчых рэформаў у спраўцаў гэтай „рэвалюцыі“ няма.** Новага Сойму яны (ў першую чаргу—пэпэзсы разам з усей „польскай дэмакратыяй“) — баяцца страшэнна, — навет больш, як гэтага—„старога“, з яго рэакцыйнай большасьцю. Бо новы Сойм можа і запраўды будзе, як прадбачыць ППС, — **чыста работніцка сялянскім!..** А з гэтым старым—значна лягчэй можна дагаварыцца аб супольным „дэмактрычным фроньце“ — проці сялян і работнікаў, ды аб усялякай кандыдатуры. Дзеля таго „авангард“ гэтай польскай дэмакратыі —ППС. выставіўшы першым пунктам—**разгон** старога Сойму, хоча **выкарыстаць яго „маральны аўтарытэт“ дзеля выбару новага галавы Польскай Рэспублікі.**

Вось, здаецца, і ўся сутнасьць і ўвесь рэзультат усей адбытай толькі-што „Вялікай Польскай Маральнай Рэвалюцыі“!..

---

Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

---

## Нацыянальны Збор.

У апошнім нумары мы пісалі аб падгатоўцы да склiканьня Нацыянальнага Збору.

Падгатоўка гэтая ўжо скончана. 22 мая маршалак Сойму абвясьціў дзень і месца паседжаньня. Мае яно адбыцца 31 г. м. ў Варшаве.

Склiканьне нацыянальнага збору, пры вытварыўшымся палажэньні абазначаець ня што іншае, як **ліквідацыю перавароту,** зробленага Пілсудскім.

Справу ня трэба заблутываць, яна — ясная: або армія і падтрымовываючы яе народ да часу новых выбараў рашае аб жыцьцю краю, або стары Сойм і Сэнат, ці нацыянальны збор, каторы ёсьць тым-жа Соймам і Сэнатам, сабранымі ў адну салю.

У першай палове свайго выступленьня Пілсудскі быў рэвалюцыянэрам. Не аглядаючыся на істнуючыя законы, чуючы за сабой паддзержку ўсяго насяленьня, ён разагнаў фашыстаўскі ўрад Вітаса.

Ад гэтай хвіліны пачынаецца другая частка яго работы: ліквідацыя справы, у абароне каторай спачатку сам ён выступіў.

Замест стварэньня работніцка-сялянскае ўлады, роспуску Сойму і Сэнату, апанаванага абшарнікамі і капіталістамі. ды назначэньня новых, свабодных выбараў — Пілсудскі пайшоў на **ўгоду.**

Угода—гэта балота. Што раз, то далей угразаў у ім Пілсудскі, і сягодня ён самахоць аддае сябе на ласку і няласку толькі што разьбітага ворага.

Іначай нельга ацэніваць факту склiканьня нацыянальнага збору. Збор мае выбіраць галаву дзяржавы — прэзыдэнта. Збор **можа ня выбраць Пілсудскага.**

---

Як ня важна гэтае пытаньня само па сабе, прынцыповым зьяўляецца другое.

Сойм і Сэнат, той самы стары Сойм і Сэнат, у каторых абшарнікі і капіталісты маюць большасьць, у каторых правалілі яны зямельную рэформу, абложылі сялян непасільнымі падаткамі, зьнішчылі дабрабыт работніцкай клясы і ў канцы выбралі ўрад Вітаса,—асталіся на сваім становішчы. І правадыр аружнага выступленьня арміі, Пілсудскі, прызнаець іх найвышэйшай уладай, ставіць сваю непакорную асобу ў поўную залежнасьць ад гэных пастаноў...

Вось дзе зьмест **капітуляцыі.**

Нацыянальны збор галасамі пануючых клясаў можа выбраць на прэзыдэнта, каго захоча, назначыць пасьля ўрад, які захоча, правядзець новы закон аб выбарах, скіраваны проці працуючага люду, і толькі пасьля разьвяжа сябе. Навет можа не сьпяшацца: у яго рукі аддадзена **ўся ўлада.**

31 траўня на паседжаньні нацыянальнага збору будзе разглядацца толькі справа выбару прэзыдэнта.

Ходзяць чуткі, што рэакцыя правакацыйна хоча паставіць кандыдатуру скіненага Войцехоўскага, або Вітаса.

У якім палажэньні апынуўся-б у гэтым выпадку Пілсудскі? Яму асталося-б адно з двух, або пачаць **усё нанова,** арыштаваць і новага прэзыдэнта і разагнаць на гэты раз ужо Сойм і Сэнат, або—**падчыніцца.**

Спроба павароту Вітаса, або Войцехоўскага выклікала-бы акрамя пратэсту Пілсудскага агульнае абурэньне ў масах, і вось дзеля таго найбольш сьвядомыя абшарнікі і капіталісты разам з сваімі слугамі (напр. манархістычнае віленскае „Słowo“) успакаіваюць ваяўнічых колег. Яны баяцца адкрытага выступленьня цяпер. Паводлуг іх у канцы канцоў усё роўна, хто будзе прэзыдэнтам: Войцехоўскі, Вітас, ці Пілсудскі. Так, ці інакш—фактычную ўладу будзе мець Сойм з буржуазнай большасьцю. Трэба паводлуг іх лепш зьліквідаваць магчымасьці „бунту“. Пілсудскі сам ідзе ў сеці, сам адмовіўся ад шляху барацьбы, дык-жа лепш выбраць яго і тым самым прыкуць да цяперашняга Сойму.

Гэта абдуманая лінія. Яе пэўна і прыйме рэакцыя ў канцы. Дык тады ўсё астанецца пастараму, толькі Пілсудскі дасьць сваю фірму, каторая нейкі час найбольш цёмным і несьвядомым будзе дурыць галаву.

Угаловыя ППС і „Wyzwolenie“, ды нерашучае, бяспрынцыпнае „Stronnictwo Chłopskie“ паддзержыць, як відаць, бяз усякіх засьцярогаў кандыдатуру Пілсудскага. Гэтакім чынам іх становішча, па сваей істоце, як і заўсёды, ня будзе розьніцца ад буржуазнага. Праўда яны гавораць аб новых выбарах, але адмовіліся ад супольнага фронту ў гэтай справе з радыкальнай лявіцай.

Радыкальная лявіца, наадварот, **прынцыпова** ня хоча аддаваць улады Сэнату і Сойму. Яна дамагаецца распушчэньня гэтага Сойму. Барацьбу з фашызмам, паскольки-б гэтакая яшчэ вялася, яна не задумываючыся падтрымае, але галасавала-б толькі за гэтакага прэзыдэнта, каторы-б даў заруку, што зараз-жа распусьціць Сойм і Сэнат ды назначыць новыя выбары.

---

Чым-бы ні скончыліся выбары ў Нац. Зборы 31 траўня, — навет у выпадку выбару на прэзыдэнта п. Пілсудскага ўлада буржуазіі ня будзе зламана пры далейшым істнаваньні гэтага Сойму і Сэнату. Толькі новыя выбары могуць даць працоўным магчымасьць вясьці далейшае змаганьне за ўладу, ад якога ўхіліўся п Пілсудскі. **Ф.**

---

# ВОДГУКІ ПЕРАВАРОТУ

### „Пазнанская канфэдэрацыя“ не здаецца.

Пазнанскія „канфэдэраты“ не здаюцца. Уся інфармацыя, падаваная пазнанскай прэсай, праходзіць праз цэнзуру „аўтаномнай“ пазнанскай улады. Пазнанская прэса дагэтуль лічыць „прававітым урадам“—урад Вітаса, „маючым у Сойме большасьць 240 галасоў“. Уся „нацыянальная“ французская прэса абслугоўваецца інфармацыямі з Польшчы праз Пазнань. За плячыма ваяводы Бнінськага і заступніка камандзіра корпусу ген. Гаўзэра, стаіць і кіруе ўсей акцыяй—сам Раман Дмовскі,—на чале недабітага „ураду Вітаса“. Тэлеграфныя і тэлефонныя зносіны з Варшавай—так сама пад уважным кантролем „улады“.

### Двузначная адозва марш. Тромпчыньскага.

Маршалак Сэнату Тромпчыньскі выдаў—„дзеля супакаеньня Пазнані“ — адозву, утрыманую ў стылю нейкага царскага маніфэсту. Але найцікаўней, што ўся левая прэса слушна прызнае гэты „маніфэст“—паджыганьнем да далейшага ўпорства пазнанскай Вандэі... У гэтым „маніфэсьце“ марш. Тропчыньскі заклікае „пазнанцаў — „ня шукаць даразна твораных уладаў, — бо ўлада ёсьць на мейсцы“.

Дзе-ж і хто-ж гэтая ўлада? —„Прадстаўніком дзяржаўнай улады зьяўляецца ваявода Бніньскі... А ваеннай—генарал Гаўзэр .. Дык толькі ім падпарадкавацца і кліча п. Тромпчыньскі“. Маей мэтай, да якой я (мы, Божай міласьцю..) буду імкнуцца з усей становучасьцю будзе адбудова ў Польскай Дзяржаве законна створанага ўраду (дык ясна-ж. што — ня ўраду Бартэля!) з новым прэзыдэнтам на чале. „Да гэтай абароны права ўсей сілай волі і чыну“ м. Тромпчыньскі і заклікае насяленьне Пазнані, якое з Варшавы паехаў „супакоіваць“.

Канчаецца „маніфэст“ эндэцкага павадыра зусім „па-царску“: „Веручы ў ласку Божую і ў магутнасьць духа Польшчы, кідаю гэты заклік з глыбіні нацыянальнага сумленьня Польшчы...“ і т. д., і т. д.

### „Нацыянальны камітэт“ у Верхняй Сілезіі.

У Катовіцах — якраз у часе варшаўскай калатні—арганізаваўся „Нацыянальны Камітэт“, які мае сваей мэтай—„аб‘яднаньне ўсяго нацыянальнага лагеру ў краі і абарону ўсіх, стоючых на груньце законнага парадку“. Ясна, што гэта — філія пазнанскай канфэдэрацыі.

### Як генарал страляў у генерала.

„Кур. Поран.“ атрымаў з Пазнані гэткія весткі аб тым, што сьпярша называлася „спробай самагубства „ген. Соснкоўскага. Аказываецца, што ніякага „самагубства“ ня было, а была спроба забіць гэтага генарала з боку яго заступніка па камандаваньню пазнанскім ваенным округам — ген. Гаўзера...

Дзела было так.—Ген. Соснкоўскі 12 траўня вярнуўся з Варшавы ў Пазнань і застаў там ужо ў поўным ходзе высылку верных Вітасу войск на Варшаву. Як толькі ён прыйшоў у штаб, у яго габінэт прыйшлі ген. Гаўзэр з двума вышэйшымі афіцэрамі штабу. Ген. Гаўзэр, далажыўшы аб тым, што зроблена, даў яму для падпісу загад аб далейшай пасылцы войск. Ген. Соснкоўскі рашуча адмовіўся пасылаць войска проці Пілсудскага. Тады ген. Гаўзэр з афіцэрамі патрэбавалі, каб ён аддаў ім сваю шаблю, — гэта значыць: папросту хацелі яго арыштаваць. Тады Соснкоўскі, згодна з ваенным статутам, вынуў рэвальвэр, каб бараніць сваю чэсьць і ўладу. Але замахоўцы не далі яму стрэліць, ды—самі цяжка ранілі яго ў правы бок, прастрэліўшы лёгкія, і—хута выбеглі з габінэту..,

„Маральная санацыя“ арміі йдзе!

### Разбраеньне Варшавы.

Урадавы камісар Варшавы загадаў, каб усе неваенныя, хто мае аружжа, зараз-жа аддалі яго паліцыі.

### Як Вітас уцякаў.

Вельмі цікаўна ды сымвалічна, што выпушчаны спад арышту ў Варшаве „прэм‘ер“ Вітас, баючыся гвалтаў з боку жаўнераў ды наагул насяленьня, спрытна апрануўся, разам з 2 іншымі сваімі таварышамі, у вопратку паліцыянтаў, і гэткім чынам усе трое нятыкальна паехалі да вітасавай гміны Верхаславіцы.

### Наваградзкі ваявода ў ролі абаронцы рэакцыі.

Генарал і ваявода Янушайціс, слаўны тым, што перад першым маем вельмі старанна рыхтаваўся да пагромаў, каторыя яго падуладныя ня менш старанна выканалі—у сувязі з пераваротам ізноў зьвярнуў на сябе ўвагу.

Ніжэй падаем камунікат, выданы 14 мая а 22 гадз. Сьведчыць ён ня толькі аб вернасьці п. ваяводы чорнай сотні, але і аб падаваньні сьвядома фальшывых ведамасьцяў:

**„Камунікат да ўсіх п.п. старостаў.**

Некалькі вайсковых атрадаў пад загадам

маршалка Пілсудскага 12 с. м. зрабілі замах на законны ўрад. У працягу 13 с. м. на вуліцах Варшавы трывалі баі, а адначасна вяліся перагаворы. Пасьля палудзя і вечарам 13-га перамога аказалася на старане ўрадавых войск. Прэзыдэнт і ўрад вядуць акцыю супроці збунтаваных. На землях ваяводзтва пануе спакой. Усё грамадзянства павінна, як мага, спакайней чакаць на далейшы ход выпадкаў.

З боку адміністрацыйнай улады загадываю ўсё дзеля ўтрыманьня ладу і парадку.

Камунікат п. п. старосты выкарыстаюць, паводле свайго погляду, дзеля барацьбы з **баламутнымі плёткамі**".

Падпісаў: ваявода **Янушайціс**
генэрал дывізыі.

Да гэтага гожа дадаць, што навет польскія абшарнікі з групы б. камісара Усходніх Зямель Асмалоўскага гэтак абураны на Янушайтіса, што трэбуюць звальненьня яго са службы...

### Кандыдаты на прэзыдэнта Рэспублікі.

Правая ды левая польская прэса называе гэткіх кандыдатаў на прэзыдэнта Польскай Рэспублікі, спаміж якіх будзе выбіраць Нацыянальны Збор 31 траўня:

Першы—марш. **Пілсудскі**, аб якім страшэнна клапоцяцца пэпэсы, заклікаючы падаваць за яго галасы ня толькі меншасьці, але і пястоўцы, а навет і эндэкі... Правая прэса піша, што гэтая кандыдатура—„правакаваньне правіцовай большасьці Сойму і Сэнату". Дык быццам яна зьбярэ нябольш 100 галасоў—з усей лічбы 555 сяброў Нац. Збору.

Марш. **Ратай** рашуча зьняў сваю кандыдатуру, тлумачучы адмову тым, што ён—„яшчэ залішне малады, каб... на становішчы прэзыдэнта карыстацца—безадказнасьцю", ды што ён хоча працаваць для Польшчы, як адказны палітык.

Марш. Сэнату **Тромпчыньскі**. Гэтую кандыдатуру ізноў лявіца лічыць правакацыйнай—пасьля тэй „супакойваючай" акцыі, якую той распачаў у Пазнані...

Былі прэз. **Войцеховскі**, калі хіена-пястоўская большасьць запраўды мае ўпорна прадаўжаць сваю лінію, можа атрымаць найбольш галасоў. — Калі толькі яму не „парадзіць" хто з лявіцы — зьняць сваю кандыдатуру...

Высоўваюць „сярэднюю" кандыдатуру ген. Соснкоўскага, але—ці ён яшчэ дажыве да выбараў, пасьля раны ў Пазнані, няведама.

Называюць яшчэ—п. п. Скшыньскага, Бартэля ды праф. Варш. Унівэрсытэту Каханоўскага.

Як бачым, няма ніводнай, на якой памірыліся б правіца і лявіца.

## Справа рэарганізацыі Рады Лігі Народаў.

Як мы ўжо паведамлялі, Камісія дзеля рэарганізацыі Рады Лігі Народаў прыняла з невялікімі зьменамі праект, апрацаваны англійскім урадам—у паразуменьні з францускім.

Камісія пастанавіла, перадусім, што сталыя мейсцы маюць займаць у Лізе толькі **запраўды вялікія дзяржавы**, дык—з прычыны таго, што дагэтуль заявіла з іх аб сваім жаданьні ўвайсьці ў склад толькі **Нямеччына**,—яна **адна і атрымае** ў верасьні **сталае мейсца**.

Што датычыць іншых дзяржаў—сярэдніх ды малых, дык для іх лічба нясталых мейсцаў павялічываецца—да 9. Пры гэтым 3 з іх будуць выбраны на 1 год, другія 3—на 2, а трэцяя тройка—на 3 гады.

Гэтая рэформа мае быць зроблена адразу на верасьнёвым Агульным Зборы Лігі, прычым нававыбраныя нясталыя сябры Рады зараз жа займуць свае мейсцы, а гэткім чынам выходзяць з Рады ўсе цяперашнія. Апошняя пастанова Камісіі скіравана проста ў Гішпанію ды Бразылію, якія сарвалі сакавіковую сэсію Агульнага Збору Лігі. Калі яны будуць і ў верасьні сабатаваць дапушчэньне Нямеччыны ў Лігу, тады Агульны Збор папросту ня выбяра іх у Раду, а — выбяра тыя дзяржавы, якія ня будуць перашкаджаць уваходу Нямеччыны ў Лігу... А на выпадак, калі-б і хто з нававыбраных нясталых сяброў Рады перашкаджаў працы Лігі, Камісія пастанавіла, што Агульны Збор можа зрабіць **перавыбары гэтых сяброў** — у кожны мамэнт, калі толькі знойдзе патрэбным.

Кітай, Гішпанія, Бразылія і Польшча зрабілі свае засьцярогі на праект, якія будуць разглядацца на другой сэсіі Камісіі—28 чэрвеня с. г.

Камісія, прымаючы пад увагу пажаданьні дзяржаў розных часьцей сьвету, прыняла пастанову, каб 3 з 9 нясталых мейсц былі дадзены дзяржавам Паўдзённай Амэрыкі. Адпаведную рэпрэзэнтацыю трэба даць у Радзе й Азіяцкім дзяржавам. Дык тады астаўшуюся лічбу прыдзецца ўжо вельмі скупа дзяліць—паміж эўрапэйскімі... Ці ўсім дастанецца гэтая чэсьць з тых, якія заяўляюць свае пратэнсіі на мейсца ў Радзе Лігі,—вельмі сумліўна...

## Памяці Максіма Багдановіча.

**У дзевятыя ўгодкі сьмерці Яго (1917—25/V—1926).**

*Далёка, далёка—ў чужой старане,*
*Дзе Чорнае мора бушуе,*
*Ляжыць у магіле паэт малады*
*І гэтае буры ня чуе...*
*Ніхто не разбудзе ад гэтага сну*
*Яго—песьняра ўсей прыроды,*
*Бо сьмерцяй завецца такі вечны сон...*
*Памер у маладыя Ен годы.*
*А як лятуцеў аб старонцы сваёй*
*Яе дарагенькі сыночак!*
*На памятку сплёў і аставіў людзям*
*Ен свой невялічкі вяночак.*
*І гэты „Вянок", што пакінуў Ен нам,*
*Ня ссохся—цьвісьці вечна будзе!*
*Свайго-ж песьняра, што памер маладым,*
*Ніколі народ не забудзе.*

**С. Волько.**

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Аддалі пад суд генаралаў-зладзеяў.

Вітасавы абаронцы генаралы Развадоўскі, Загурскі і Язьвіньскі аддany ваенным пракурорам пад суд за розныя зладзействы ды надужыцьці, карысныя для іх, але крыўдныя для дзяржаўнага скарбу.

### Пястоўцы ўцякаюць ад Вітаса.

Некалькі паслоў і сэнатараў з Пяста — на нарадзе ў Кракове, дзе апрацоўвалася падзяка Вітасу за яго „працу"—адмовіліся даць свой подпіс на гэтай „падзяцы". Трэба спадзявацца, што на Нацыянальным Зборы галасы пястоўцаў разаб'юцца паміж лявіцай і правіцай.

### Прыгавар над фашыстамі.

Суд над фашыстычнай арганізацыяй (Pogotowie Patrjotów Polskich) скончыўся.

Два члены яе засуджаны... на 4 месяцы турмы, трэці на 2 месяцы, чацьверты — на месяц, а рэшта зволынена.

І гэта—у час, калі сялян і работнікаў за падобныя паступкі засуджываюць на некалькі гадоў вастрогу...

## Заграніцай.

### Гульня ў разаружэньне.

21 мая на паседжаньні „Міжнародавай Камісіі па падрыхтаваньню разбраеньня" лёрд Сэсіль прадставіў мэморандум, у якім прапануе скасаваньне абавязковай ваеннай службы. Дэлегаты Амэрыкі і Нямеччыны згадзіліся на гэта, але францускія, італьянскія і бэльгійскія сталі проціў, адзначаючы, што гэта ёсьць пытаньне палітычнае і ў ніякім выпадку не ўвайходзіць у праграму абмежаньня зброеньняў (?)

„Міралюбівы" лёрд паслушна зьняў сваю прапазіцыю.

### Забастоўка ангельскіх вуглякопаў трывае далей!

20 г. м. адбылася канфэрэнцыя дэлегатаў вуглякопаў, на каторай разглядалі яны праект паразуменьня з капіталістамі, апрацаваны ўрадам. Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю, адкідаючы ўрадавы праект зьніжэньня заработнай платы,—і забастоўка трывае далей.

Ангельская буржуазія рыхтуецца да апошняга ўдару. Слугі яе, як напр. сэр Джон Сімон, выступаюць з прамовамі, у каторых даказываюць, што забастоўка частковая—легальна, а агульная—нелегальна. Ці, прасьцей кажучы, яны хочуць прадставіць агульную забастоўку, як процізаконны крок, каб мець свабаднейшыя рукі ў душэньні **работніцкага** руху.

### Лёкаўт (?)

Дырэкцыя аўтамабільнай фірмы Рэноль аб'явіла лёкаўт. 25 тысяч людзей асталося бяз працы.

### Пасьпехі французаў і гішпанцаў у Марокко.

Францускія і гішпанскія крыніцы паведамляюць аб вялікіх пабедах саюзных войск над Абд-Эль Крымам, які быццам навет уцёк з сваёй сям'ёй, пакінуўшы разьбітую армію...

Весткі гэтыя яшчэ не праверaны з больш аб'ектыўных і верыгодных крыніц.

### Новы паварот у Кітаі.

Англа-японскія найміты ў Кітаі без пары цешыліся з сваей „аканчальнай" перамогі над народнымі арміямі. Сягодня-ж газэты пішуць, што сярод народу пайшла новая магутная хваля руху—на карысьць вызваленчых баявікоў, ідэйна зьвязаных з кітайскім камунізмам.

Трэба спадзявацца новага павароту і ў ваеннай акцыі народных арміяў.

# ХРОНІКА.

**Экзэкуцыя над паўстанцам.** 20-га мая г. г. а $1/2$ 5 гадз. раніцай выканана на Антокальскіх гарах экзэкуцыя над паўстанцам Кузьмой Нарыванчыкам, жыхарам вёскі Лубень, Лухоўскай гміны, Лунінецкага павету.

Нарыванчык быў засуджаны на сьмецъ Акружным Судом у Пінску за ведамы напад на цягнік, які вёз ваяводу Дароўскага. Акр. Суд прыгавор зацьвярдзіў.

**Зацьверджаньне статуту Т-ва Беларускае Школы.** Нарэшце ўлада зацьвярдзіла статут Таварыства Беларускае Школы, патрэбаваўшы толькі зрабіць у ім рад зьмен. Абшар дзеяльнасьці Т-ва абыймае ўсю Польшчу.

**На „Беларускіх" курсах.** На курсах для беларускіх народных вучыцялёў, наладжаных у Вільні польскім урадам, навука ўжо падыходзе да канца.

Якая гэта была навука, аб тым лепш не гаварыць. Беларушчына апынулася там зусім на апошнім мейсцы, а затое ўсе сілы паноў пэдагогаў былі ськіраваны на тое, каб з слухачоў курсаў зрабіць перадусім „добрых палякоў". Але людзі вучыліся, маючы надзею, што ў выніку іх працы здабудуць сабе права на кіраваньне беларускімі школамі ці хаця на выкладаньне ў „двуязычных".

Вось-жа гэта й аказалася вельмі недаспадобы кіраўніцтву курсаў. Хаця пры прыёме курсантаў іх раз прасявалі ўжо праз палітычна-дэфэнзыўнае сіта, грунтуючыся на інфармацыях Паўлюкевіча і ягоных агентаў, аднак-жа ў лічбе слухачоў курсаў аказаліся й запраўдныя беларусы, якія йшлі вучыцца з аднэй мэтай: за ўсялякую цану атрымаць права займацца сваей прафэсіяй—у роднай беларускай школе. Цяпер, перад выдачай атэстатаў, кіраўніцтва курсаў прыдумала гэткі спосаб пазбавіць сьведамых беларускіх настаўнікаў гэтае магчымасьці.

Робіцца гэтак. Такіх „неблаганадзёжных" з пункту гледжаньня польскага нацыяналізму курсантаў пры лекарскім аглядзе „бракуюць": проста прызнаюць, што „стан іх здароўя" не пазваляе прымаць іх на штатных вучыцялёў, і яны могуць працаваць адно толькі, як часовыя—кантрактовыя вучыцялі....

Ясна: калі і створацца некалі нейкія „двуязычныя" казённыя школы, дык такіх вучыцялёў туды браць ня будуць. Сярод пакрыўджаных курсантаў гэта вызывае зусім зразумелае абурэньне.

**Гараць лясы.** Гараць лясы ў Заходняй Беларусі.

20 дзесяцін лесу згарэла ў маёнтку гр. Чапскага Навасёлкі, Сольск. гміны. Ашмянск. пав.

50 дзес. згарэла ў маёнтку абшарнікаў Рымкевіча, Мароша і Садахі—у Дзісьненшчыне.

3 дзесяціны лёсу згарэлі ў пасла Хаміньскага ў м. Белая Вада ў Сьвянцяншчыне.

23 дзес. казённага лёсу спаліліся ў Брацлаўскім пав. паміж вёскамі Бярцы і Гулеўшчына.

**Афіцыяльны курс грошы на 26 траўня.** Даляр— 11 зл. 00 гр. Залаты рубель — 5 зл. 65 грошы.

25. V. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 11,30.

# Работніцкае жыцьцё.

### Безрабоцьце ў Вільні расьцець.

Паводлуг даных „Państwowego Urzędu Posrednictwa Pracy" лік безработных быў на першага мая 5330 асоб. Сьпісак з 20-га мая налічываець 5473 асобы, або на 143 асобы больш.

### Пераможная забастоўка віленскіх электромонтэраў.

Між уласьнікамі фірмы „Zjednoczenie polskich elektromonterów" і забаставаўшымі работнікамі тэйжа фірмы дайшло да паразуменьня. Уласьнікі згадзіліся на варункі, выстаўленыя забастоўшчыкамі.

### Працэс камуністаў.

У Сувалках адбываецца працэс проці 53 камуністаў. На суд пакліканы больш як 350 сьведак. Справа разглядаецца пры зачыненых дзьвярох.

### Дзе прычыны забастовак.

Забастоўка—гэта адзіны спосаб, якім работнікі могуць змусіць фабрыканта да ўступак. Звычайна пачынаецца яна пасьля таго, як капіталіст абніжыць заработную плату, або прадоўжыць рабочы дзень, або не датрымае каллектыўнай умовы. Як толькі яна пачнецца — слугі буржуазіі паднімаюць крык, што работнікі ворагі грамадз. што дзеля сваіх інтарэсаў, змушаюць яны цярпець ад забастоўкі ўсё насяленьня.

Усім абаронцам „спакою" трэба сказаць: ня хочаце забастоўкі — ня дайце капіталістам адбіраць работніку апошні кусок хлеба, змусьце фабрыкантаў адмовіцца ад іхных дамаганьняў, або, калі іх гэтак жалееце,—здавольце іх ненасытныя апэтыты ўласнай кішэняй.

Вось новыя факты:

У пякарскім промысьле ў Варшаве была заключана каллектыўная ўмова (ўмова між фабрыкантамі і работнікамі) да 1/X с. г. Быў яшчэ адзін варунак: калі за месяц да 1/X ні водная старана не захоча яе замяняць і не заявіць аб гэтым—умова будзе трываць далей. Проста і ясна!

Ня гледзячы на гэта, уласьнікі ўжо ад 1/IV адмовіліся ад умовы з тым, што 1/V маюць быць уведзены новыя варункі працы

Гэта стаіць у поўнай супярэчнасьці з падпісанымі імі ж раней дакумэнтамі, але ўласьнікі лічаць, што пры буржуазным парадку ім усё можна...

Узьняўся спор, работнікі ня хочуць слухаць аб зьменах да 1/X. Ня ведама, чым скончыцца гэта.

Тое самае ў Лодзі. Лодзкі магістрат не датрымаў умовы з работнікамі, працуючымі ў варштатах, пры каналізацыі і на плянтацыях. Плаціць ім менш.

Работнікі варштатаў забаставалі ўжо, рэшта на сходзінах 7/V пастанавіла пакуль што ўстрымацца і папрабаваць дайсьці да паразуменьня без забастоўкі.

# Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту.** **Рэдакцыя.**

## Кветкі гора і цямноты.

(З Дзісеншчыны).

Уначы з 8-га на 9-га траўня с. г. жыхарка вёскі Булахі, Празароцкае гміны, Ганна Булах пачула ў сенях нейкі шум і, калі выйшла туды з агнём,—застала тамака сваіх блізкіх родных — Адольфу і Альжбету Васьковічаў, якія ўлезьлі праз страху і нечага шукалі ў сенцах. Убачыўшы Г. Б., Васьковічы кінуліся на апошнюю і нанясьлі ёй некалькі рэн нажом у грудзі. Г. Б. не пасьпела і закрычаць, бо злачынцы заткнулі ей рот шмацьцём і пакінулі няшчасную ў сенях, дзе яе знайшлі ўжо наранку дзеці.

Праз тры дні Г. Б. памёрла — пакінуўшы дзяцей сірот.

Цікава, што гэты выпадак здарыўся пасьля пабыту ў гэтых ваколіцах місіянэраў, якія цэлы тыдзень баялі людзём аб усялякіх пекных рэчах. Але гэтыя байкі, відаць, ужо ня маюць сваей сілы, бо і Васьковічы, памятаючы прызыў місіянэраў маліцца часьцей, адпраялі з вечара з суседзямі маёвае набажэнства, а ўначы не пабаяліся зарэзаць безбаронную сваячку.

Бедныя людцы, калі-ж вы пазнаеце, што вашая лепшая доля і будучына залежыць не ад маёвых набажэнстваў, не ад літаніяў, а ад духовага адраджэньня і вызваленьня з цемры і сацыяльнай, ды нацыянальнай сьвядомасьці.

А колькі булахаўцы кідаюць у кірмашныя дні на атруту — гарэлку, якая руйнуе душу, здароўе і гаспадарку. Два злотых лёгка кідаеце вы на бутэльку гарэлкі,—а гэтага якраз і хватае на газэту! Праўда, — мо' аднаму і цяжка здабыцца на два злотых, — дык злажыцеся ўсей вёскай, а гэта выйдзе ў месяц на гаспадара якіх 10 грашоў. І іншыя вёскі—не багацеі,—а яны маюць і газэту і кніжку.

К сьвятлу, браты! Ад нас саміх залежыць прагнаць цемру і стацца людзьмі. Ня лічыце, — што нам хто-небудзь дапаможа! Толькі самі можам дабіцца лепшое долі, лепшага жыцьця і спакою, а тады і бяз літаньняў будзем ведаць, што забіваць людзей — агідна і ганьба. **Нядоля.**

## Патрыятычны поп.

(В. Беніца, Маладэчанскі пав.).

Наш поп на 3-га мая вельмі маліўся ў царкве за ўрад. Пасьля службы зьвярнуўся з прамовай да народу, дзе хваліў польскія парадкі (верым, што папам, абшарікам ды фабрыкантам добра жывецца!) і заклікаў да ўчасьця ў трэцямайскай маніфэстацыі. Надта ўжо руплівы наш поп: на маніфэстацыю навет абшарнікі ня прыехалі, не пафатыгаваліся, апрача дзяцей — нікога ня было. Сяляне ж не пайшлі ні адзін, бо яны верныя свайму працоўнаму першамайскаму сьвяту.

Прыхаджане Беніцкай царквы дзякуюць кансісторыі за прысланага папа! І патрыёт ён і абдзірае са скуры сялян. Вось прыклад: селянін К. Вагер з вёскі Рэдзькі прывёз хрысьціць дзяцёнка. Меў толькі 2 зл., і што не напрасіўся папа, каб ахрысьціў за гэтыя грошы, — поп адмаўляўся. Кажа, што менш, як 5 зл., не бярэ! Згадзіўшыся ў канцы ахрысьціць дзіця напавер,—ён у нядзелю на пропаведзі публічна пачаў лаяць Вагера за гэта, што той не аднёс рэшты. Гаварыў, што гэта вялікі грэх і што Вагеру чэрці скуру зьдзяруць у пекле. Я ж лічу, што не патрэба і чарцей: пакуль памрэш, зьдзяруць яе нашаму брату „сьвятыя айцы“. **Прыхаджанін.**

## Падаткі.

(Піншчына).

Вось як абыйшлася адміністрацыя ў нас, у вёсцы Заставы, Бяздежскай гміны, пры зьбіраньні падаткаў.

Спачатку не плаціў ніхто, але пасьля тыя, хто яшчэ меў што небудзь прадаць, бачучы, як забіраюць дабро ў суседніх ваколіцах, — распрадаліся і заплацілі.

Хто ж ня меў нічога вынясьці на рынак,—чакаў.

Вось-жа паліцыя прыступіла да экзэкуцыі сярод гэтых апошніх бедакоў,—забірала ўсё, што пападалася ў рукі, і складала дабычу ў аднэй хаце.

У гаспадара Семяновіча нічога не знайшлі, апрача мяшка. Хацелі і гэта забраць. Стары Семяновіч, не даючы, пачаў біцца. Зьбеглася шмат сялян з вёскі, каторыя сталі ў абароне Семяновіча. Шмат хто карыстаючыся шумам, забраў сваё з хаты, дзе былі зложаны рэчы,—і аднёс назад.

Паліцыя, бачучы перад сабой таўпу сялян, уцякла. Тады войт той-жа гміны Макарэвіч сам пайшоў узноў па хатах і паадбіраў аднесеныя падушкі, палатно і другія рэчы.

Выкупіцца можна было толькі бутэлькай самагонкі, але-ж ня кожны меў на гэта грошы. Найбяднейшыя сяляне мусілі аддаць усё, што толькі войту захацелася ўзяць, каб паліцыя не цягнула да адказнасьці.

Ня можам больш плаціць, але з нас бяруць апошняе, а абшарнікаў звальняюць. Няхай-бы яны перш заплацілі, а пасьля ўжо забіралі-б у нас рэшткі.

**Селянін**

## Самазванец.

(В. Чамяры, Слонімскага пав.).

Амаль ня кожны дзень у нашай вёсцы здараюцца навіны.

2/V 1926 г. на першы дзень праваслаўнага Вялікадня, вечарам наша моладзь наняўшы музыканта, зрабіла гульню. Туды пачалі з усяе вёскі зьбірацца хлапцы і дзяўчаты. Сабраліся пяць хлапцоў: Барыс Бурсэвіч 15 г., Антон Міска 13 г., Фякціст Міска 15 г., Васіль Бурсэвіч 14 г., Якуб Міска 15 г., таксама пайшлі на музыку. Ідучы праз вёску, адзін з іх успомніў пра свайго шостага калегу, якога яны сьмехам незывалі „Архангелам“, і сказаў:

„А дзе-ж гэта сягоньня наш „Архангел?“.

У гэты час, як на бяду, каля іх праходзіў паліцыянт з Касьценеўскага пастарунку № 1884. Пачуўшы гэтую размову, ён закрычаў на іх, каб ўсе яны застанавіліся, бо калі не застановяцца, то будзе страляць.

Трымаючы ружжо нагатове, паліцыянт падыйшоў да хлапцоў, і пытаючыся, хто сказаў слова „архангел?“ — пачаў біць па твару Барыса Бурсэвіча так, што бедны хлапец праз некалькі хвілін абліўся крывёю. Потым пачаў крычаць на ўсіх: „кажыце, хто сказаў слова „архангел“, бо зараз усіх перастраляю.

Але ад хлапцоў ён нічога ня выпытаў.

№ 1884 скамандаваў усім хлапцам ісьці да Касьценеўскага пастарунку, да якога ад нашай вёскі тры кілямэтры, а сам, трымаючы ружжо нагатове, йшоў ззаду. Дарогаю паліцыянт пачаў гаварыць на хлапцоў такія брудныя словы, што немагчыма іх тут зьмясьціць. Гэтыя словы ён гаварыў і на польскай мове і на расейскай і на беларускай.

Калі яны сталі мінаць вёску Чамяры, паліцыянт затрымаў іх і пачаў зноў пытацца, хто сказаў „Архангел“, але таксама нічога не дабіўся. Дык, запісаўшы прозьвішча Васіля Бурсэвіча, пайшоў дзесь, ледзь трымаючыся на нагах, бо мусі за шмат напіўся, а хлапцом сказаў ісьці дамоў. Цікава, чаму яму не спадабалася слова „Архангел?“. За кожнае слова нас да пастарунку гоняць!.. **Якміс.**

# Перасьцярога.

Адна амэрыканская расейская газэта надрукавала перасьцярогу для сялян Заходняй Беларусі, якія хацелі-б ехаць у Канаду, каб асесьці там на зямлю.

Газэта піша, што там ужо многа ёсьць расейцаў, якія хацелі-б таксама асесьці на зямлю, але на гэта патрэбны вялікія грошы. Бяз большой сумы грошы загаспадаравацца—ў Канадзе не магчыма.

Газэта перасьцерагае беларусаў перад тымі агентамі, якія, агітуючы на выезд у Канаду, хочуць толькі прадаць „шыфкарту“ і зарабіць грошы, ды ня дбаюць аб дабро эмігрантаў.

Газэта піша, што можна верыць толькі салідным кампаніям, але салідныя і вялікія кампаніі—зазвычай не запрашаюць адзінак, але цэлую грамаду (арцель).

Трэба быць асьцярожным!

# Пісьмо з Піншчыны.

7/IV—26 г. у Пінску адкрыўся аддзел Віленскага Беларускага Каапэратыўнага Банку, на адкрыцьцё якога прыбыло некалькі дзесяткаў сяброў Банку з Піншчыны, якія былі прыняты яшчэ праз Вільно.

Адкрыцьцё гэтага Банку мы, Пінчукі, павінны прывітаць, як найпрыхільней, дзеля таго, што Банк зьяўляецца першай арганізацыяй, якая пачынае гуртаваць працоўных беларусаў хоць на эканамічным груньце.

Хаця аддзел Банку ня больш месяца працуе ў Пінску, мы бачым, што ўжо каля 150 пазык дано сябром, а запісалося каля 300 сяброў. Пішучы гэтыя цыфры, я хачу сказаць, што ў нас у Піншчыне хоць і мала, а зразумелі, што шляхам каапэрацыі мы можам стаць на цьвярдейшы грунт і акрэпнуць. Важна таксама тое, што апрача помачы мы яшчэ будзем чуць сваю родную мову, што з намі не гавораць там папанску, а на нашай роднай беларускай—„мужыцкай“ мове. А каб гэты Банк быў і далей нашым мужыцкім, трэба нам усім сялянам запісацца сябрамі Банку і гэтым узмацніць нашу арганізацыю. Ніхто нам збоку не паможа. Мы павінны адзін аднаму працягнуць сваю мазольную руку і тады яе трудна будзе расчапіць, бо яна не такая гладкая і сьлізкая, як панская ад тлустасьці. Дзеля гэтага ўвесь сьвядомы элемэнт як з работнікаў і сялян, так і інтэлігенцыі павінен увайсьці сябрамі Банку, каб узмацніць яго.

Беларускі інтэлігент! ты павінен кінуць панскія замашкі і не глядзець звысока на сваіх меншых братоў, бо—часам і меншы брат, як падрасьце, бывае большы і харашэйшы ад старшага! Ты інтэлігент павінен стануць на чале і кіраваць усім рухам, ды каб на цябе не глядзеў селянін і рабочы, як на панка, а не роўнага брата. Інтэлігент! ідзі ў каапэрацыю, кіруй ею. Стыдна прызнацца, але ў нас на 300 сяброў толькі бачым каля 5 інтэлігентаў. Дзе-ж наша інтэлігенцыя? дзе-ж тыя сялянскія сыны, якія перад вайной выйшлі з вёскі да места учыцца? і яны хаваюцца недзе па задворках..

Дык давайце-ж, браткі сяляне, работнікі і інтэлігенты аб'яднаемся каля сваей арганізацыі, каля свайго—Беларускага Каапэратыўнага Банку, давайце-ж у ее, як адзін, пайдзем і запішамся сябрамі пінскага аддзелу гэтага Банку, паможам яму акрэпнуць, а як ён акрэпне — узмацуецца, то тады і мы будзем мець з яго больш карысьці.

Памятайце, што ў арганізацыі сіла, што з намі будуць лічыцца, калі мы будзем стаяць усе за аднаго і адзін за ўсіх!

* * *

Пінскі аддзел банку знаходзіцца ў Пінску, пры Дамініканскай вул. № 13. Адчынены ад 10 да 1 гадзіны. Каб быць сябром, трэба злажыць дэкларацыю, унесьці 5 зл. на арганізацыйныя расходы і 25 зл. сяброўскіх, сяброўскія 25 зл. можна атрымаць назад у канцы кожнага году, хто захоча выпісацца; сябрам Банку ўдзяляецца пазыка па $1^1/_2$ % і 2 % ад сотні месячна, пазыка даецца на працяг да 8 месяцаў.

**Пінчук.**

# Паштовая скрынка.

**Грам. „Маленькаму чалавечку“.** Ня ведаючы Вашага прозьвішча, друкаваць Вашу карэспандэнцыю аб пабіцьцю і спробе каманданта Ф. згвалтаваць арыштаваную Л.—ня можам. Ахвотна скарыстаем з Вашых далейшых вестак, але тады, калі будзем ведаць, ад каго яны.

**Міхасю Васільку.** Ня можам памясьціць Вашай карэспандэнцыі. Напісана надта многа, але даведацца з яе аб выпадках у сялянскім жыцьці вашай вёскі за апошні час—нельга.

Або апісывайце аддзельныя здарэньні, або пастарайцеся пры помачы фактаў і цыфр даць такі абразок, каб, прачытаўшы карэспандэнцыю, кожны, ня езьдзіўшы на месца, ведаў аб вашым жыцьці. Гэтакія карэспандэнцыі Вашы будзем друкаваць.

**М. Хмурнаму.** Вы жаліцеся, што поп з Глосевіч ня хоча гаварыць навукі пабеларуску, дзеля чаго сяляне яго не разумеюць.

Ці-ж гэта такая вялікая шкода, што папоўскія баламуцтвы не дасягаюць сваей мэты?

**Тамашу з-пад Бельска.** Факт, што ўрады нагул дрэнна вядуць свае канцэлярыі — ведамы. Пішыце аб шкодзе, якую з гэтага мае насяленьне.

**Паляшуку, Паўлючку і „некаму з вяскоўцоў.** У гэтым нумары ня маем ужо мейсца памясьціць Вашы карэспандэнцыі, выкарыстаем іх у наступных.

**„Свойскаму“.** Абедзьве карэспандэнцыі і 5 зл. атрымалі. Матэрыял выкарыстаем. Дзякуем.

# Усячына.

## Буржуазныя норавы.

У Тэрборгу, у Галяндыі, некі грамадзянін прадаў сваю дваццацітрох гадовую жонку за 40 флёрынаў мясцоваму фабрыканту 60-цігадоваму дзядку. Зьдзелка была зроблена водлуг усіх натар'яльных правіл; угавор быў складзены на гэрбавай паперы ў 2-х экзэмплярах.

Праз пяць дзён пасьля зьдзелкі прададзеная жонка вярнулася да свайго законнага гаспадара. Абураны фабрыкант патрэбаваў назад свае 40 флёрынаў. Упачатку чуткі, а потым шум аб цікавай зьдзелцы дайшлі да вушэй судовае ўлады.

Угаворы, падпісаныя прадаўцом і пакупцом, перададзены ў суд. Пачынаецца судовы працэс.

Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла**.



Адказны-Рэдактар: **Ал. Вільчыцкі.**

Друкарня **Н Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.